www.nv-online.info

№ 23 (3968)

24 сакавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗАПРАШАЕМ ЗА "КРУГЛЫ СТОЛ"

## *Нацыянальная бяспека: сучасныя выклікі, пагрозы – супольны адказ улады і грамадства*

У свеце неспакойна. Чорныя хмары вайны блукаюць паблізу нашых граніц. Вось чаму "Народная Воля" лічыць надзвычай востры неабходнасцю правядзенне "Круглага стала" з наступным парадкам дня:

**"Нацыянальная бяспека: сучасныя выклікі, пагрозы – супольны адказ улады і грамадства"**

Для абмеркавання гэтай архіважнай праблемы, выпрацоўкі адпаведных матэрыялаў запрашаем прадстаўнікоў:

**– улады,**
**– палітычных партый,**
**– грамадскіх аб'яднанняў, рухаў,**
**– працоўных калектываў,**
**– творчых саюзаў,**
**– вучэбных і навуковых устаноў.**

Арыенціровачны тэрмін правядзення "Круглага стала" – другая палова красавіка.

Заяўкі на ўдзел у "Круглым стале", прапановы па яго фармаце, прыняцці рашэнняў дасылайце, калі ласка, да 1 красавіка па адрасе: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная Воля" – з пазнакай на канверце **"Круглы стол".**

**АРГКАМІТЭТ**
**па правядзенні "Круглага стала" з павесткай:**
**"Нацыянальная бяспека: сучасныя выклікі, пагрозы – супольны адказ улады і грамадства".**

БЛІЦ

*Рух "За Свабоду" ўчора распаўсюдзіў заяву-прапанову "Менш крамлёўскай прапаганды ў беларускім доме!", у якой заклікаў кіраўніцтва краіны спыніць у дзяржаўных установах самага рознага кшталту і грамадскіх месцах трансляцыю расійскіх тэлеканалаў. І гэта не першая такая ініцыятыва дэмакратычных актывістаў.*
*Але як да яе ставіцца людзі, якія знаходзяцца па-за палітыкай?*
*"Народная Воля" звярнулася да іх з пытаннем:*

## Як вы ставіцеся да трансляцыі расійскіх тэлеканалаў на тэрыторыі Беларусі, ці падтрымліваеце прапановы абмежаваць паказ расійскіх грамадска-палітычных праграм?

**Віктар МАЛОЧКА, пенсіянер МУС (Салігорск):**

– Асабіста я не гляджу расійскія тэлеканалы, паколькі ў свеце апошніх падзей што да расіян, што да расійскіх журналістаў у пераважнай большасці стаўлюся з насцярогай.

Але, наколькі я разумею, пакуль у нас ва ўладзе знаходзіцца каманда на чале з Аляксандрам Лукашэнкам, то ніякай гаворкі пра змяншэнне трансляцыі расійскіх тэлеканалаў не будзе. Больш за тое, на маю думку, абмяжоўваць ці адключаць расійскія тэлеканалы менавіта зараз небяспечна. Па адной простай прычыне: любы неасцярожны крок у сённяшніх варунках можа даць падставу для агрэсіі з боку нашай усходняй суседкі. Бо ў любым грамадстве ёсць правакатары, якія пры нагодзе будуць галасіць: "Тэлеканалы адключылі, няхай "вялікая Расія" бароніць нас ад беларускіх "бандэраўцаў"!" Таму падстаў правакатарам даваць не трэба.

**Анастасія ТКАЧЭНКА, спецыяліст па рэкламе:**

– Я гляджу расійскія тэлеканалы і заўважыла: цягам апошняга часу, асабліва пасля абвастрэння сітуацыі ва Украіне, яны перасталі быць СМІ ў поўным разуменні гэтага слова. ТБ-эфір выкарыстоўваюць як зброю ў палітычнай і медыйнай вайне. Гэта зусім няправільна. Але відавочна, што змяншэнне прысутнасці расійскіх тэлеканалаў у Беларусі – гэта на сённяшні дзень утопія, таму лічу, што заява будзе праігнаравана. Яна застанецца дэкларатыўнай без прыняцця канкрэтных крокаў з боку ўлады.

**Юрый АЛЕКСАНДРЫН, беспрацоўны:**

– Мне не падабаюцца расійскія інфармацыйныя каналы. Па расійскім ТБ гляджу толькі тэматычныя перадачы – спартыўныя і на тэмы палявання і рыбалкі. Але што да абмежавання трансляцыі, то я супраць. Я лепей патрабаваў бы ад улады дазволіць трансляцыю ў Беларусі хоць бы аднаго ўкраінскага тэлеканала. Тым больш што размовы такія хадзілі. Няхай бы людзі глядзелі і параўноўвалі...

**Уладзімір КОЛАС, кінарэжысёр:**

– Расійскія каналы льюць брудную прапаганду, замбіруючы грамадскую свядомасць. Я не думаю, што патрабаванні народа аб спыненні трансляцыі будуць мець нейкі станоўчы вынік. Тым не менш трэба выказваць сумесную пазіцыю наконт расійскіх каналаў, каб людзі разумелі, што яны не адны і так думае значная частка беларусаў.

**Алесь ПАШКЕВІЧ, літаратар:**

– Спыніць трансляцыю немагчыма, як немагчыма адмежавацца ад Расіі. З аднаго боку, патрэбна свабода слова, розныя думкі. З другога боку, хачу, каб у маёй хаце вяшчальных расійскіх агрэгатаў было як мага менш. Хачу, каб былі польскія, украінскія, латышскія, шведскія, нямецкія каналы хаця б у роўнай прапорцыі з расійскімі.

**Аляксей МАРАЧКІН, мастак:**

– Усе расійскія каналы трэба тэрмінова закрыць як каналы краіны-агрэсара. Адзіны канал, які я гляджу з задавальненнем, гэта канал "Дождь". Чаму толькі Расія мае такі доступ да галоў беларусаў? Чаму яе вачыма мы павінны глядзець на свет? У нас побач Польшча, а каналаў польскіх няма. Побач Украіна, а іх каналаў таксама няма. Такая ж сітуацыя з Літвой, Латвіяй... Ідуць толькі расійскія каналы, капаюць і капаюць на мазгі людзям. Навошта гэта?

**Алег ТРУСАЎ, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы":**

– Спачатку трэба свае каналы перавесці на трансляцыю па-беларуску. Потым ужо трэба разбірацца з чужымі каналамі. Справа ў тым, што наша ўлада, калі захоча, то можа выразаць з расійскага эфіру ўсё што захоча і ў любы час. Памятаеце, як нам не паказалі расійскія фільмы пра Лукашэнку? Значыць, "нажніцы" ёсць. Наша задача – каб свае каналы сталі беларускамоўныя і дэмакратычныя. Як сказаў адзін мудры ізраільскі палітык: "Мова тады перамагае, калі на ёй пачынаюць размаўляць бандыты і прастытуткі". Вось тады мы станем нацыяй, і пытанне з расійскімі каналамі само па сабе знікне.

**Любоў ЛУНЁВА, Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!



## Дар'я Домрачава выйграла "бітву года"

***Беларуская біятланістка Дар'я Домрачава стала ўладальніцай Вялікага хрустальнага глобуса.***

Апошні этап Кубка свету па біятлоне, які прайшоў у расійскім Ханты-Мансійску, павінен быў даць адказ на самае галоўнае пытанне, якое хвалявала беларускіх балельшчыкаў: ці заваюе Даша ўпершыню ў сваёй кар'еры Вялікі хрустальны глобус? І яна не падвяла!

Хаця пахваляваццa давялося. Асабліва падчас суботняй гонкі праследвання, калі Дар'я замест стральбы лежачы збіралася рабіць гэта са "стойкі".

*"Кладзіся, кладзіся!"* – на адным дыханні закрычалі балельшчыкі і тым самым выратавалі беларуску ад прыкрай памылкі, што магла здарыцца.

Пасля ўручэння ганаровага трафея Даша не хавала радасці: *"Дзякую тым, хто верыў! Дзякую маёй камандзе і ўсім родным! Ханты-Мансійскім балельшчыкам асобная падзяка за вашы гучныя галасы!!! Гэта была сапраўдная бітва года! Можна выдыхнуць..."*

Сёння кампліментаў у адрас спартсменкі не шкадуе ніхто.

*"Даша – ты разумніца!"* – напісала ў сваім "Твітары" не менш тытулаваная тэнісістка **Вікторыя Азаранка.** – *Гераіня краіны!"*

А адзін з балельшчыкаў на эмоцыях нават паведаміў на форуме, што, калі ў яго народзіцца дачка, ён абавязкова назаве яе Дашай.

Да слова, Дар'я Домрачава стала другой прадстаўніцай нашай краіны ў гісторыі біятлона, якой удалося выйграць Вялікі хрустальны глобус. У сезоне 1993/1994 гадоў Кубак свету заваявала Святлана Парамыгіна. Адзначым, што з 1994 года прэстыжны трафей быў недасягальны для спартсменак з Усходняй Еўропы.

Новых поспехаў табе, Даша!

**Алесь СІВЫ.**

### Колькі зарабляюць біятланісты?

Напрыканцы мінулага года by.tribuna.com агучыла звесткі аб прызавых для біятланістаў у сезоне 2014/2015 гадоў. Вось некаторыя з іх.

Індывідуальныя дысцыпліны: 1-е – 13 тысяч еўра, 2-е – 10 тысяч, 3-е – 7 тысяч.

Эстафетныя гонкі: 1-е – 20 тысяч еўра, 2-е – 14 тысяч, 3-е – 11 тысяч еўра.

Бонус за майку лідара (чырвоную і жоўтую): на Кубку свету – 750 еўра, на чэмпіянаце свету – тысяча еўра. Прэміі за агульны рэйтынг Кубка свету напрыканцы сезона: 1-е – 28 тысяч еўра, 2-е – 23 тысячы, 3-е – 18 тысяч еўра.

Трэба ўлічваць, што з усіх прызавых спартмены выплачваюць падаткі.

ОФИЦИАЛЬНО

## 95% мясных продуктов Беларусь импортирует в Россию

То, что наша экономика ориентирована на российский рынок, ни для кого не секрет. На днях министр сельского хозяйства и продовольствия Беларуси **Леонид Заяц** признался, что практически все мясные изделия, которые белорусские мясокомбинаты реализуют за пределами страны, идут на рынок России.

*«Белорусским аграриям важно удержаться на внешнем рынке. Мало произвести – важно продать, а это сегодня все труднее,* – сказал министр, обращаясь к руководителям белорусских хозяйств и предприятий. – *Не секрет, что 95% продукции переработки мы реализуем в Российской Федерации, но в последнее время есть определенные трудности с поставками продовольствия в эту страну. Россия ведет себя придирчиво, и этому зачастую есть обоснования. Хозяйства и предприятия-переработчики должны четко понимать, что для того, чтобы уверенно позиционировать себя на рынке, мы должны быть сами на 100% уверены в качестве своей продукции. Всем должно быть понятно: несколько сигналов – и мы будем закрывать производства, чтобы не потерять марку, имя. Выявляйте причины возвратов на этапе производства и над этим работайте».*

ЧУЛІ?

## Харкаўскі трактарны завод прамяняў «Гомсельмаш» на фінаў

Харкаўскі трактарны завод адмовіўся ад стварэння сумеснага прадпрыемства па вытворчасці збожжаўборачных камбайнаў з «Гомсельмашам». Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар ХТЗ Уладзіслаў Губін.

*«Мы для сябе вырашылі, што СП павінна быць інавацыйным. І калі мы прапануем збожжаўборачную тэхніку, то яна павінна прадавацца не толькі ва Украіне»,* – сказаў спадар Губін.

Ён паведаміў, што ўкраінскае прадпрыемства падпісала пагадненне пра стварэнне СП па вытворчасці збожжаўборачных камбайнаў з фінскай кампаніяй Sampo Rosenlew і мае намер абмеркаваць магчымасці стварэння сумесных прадпрыемстваў на тэрыторыі Украіны з кампаніямі John Deere і Case IH з ЗША і Канады, паведамляе «Інтэрфакс».

Нагадаем, што "Гомсельмаш" быў вельмі блізкі да стварэння сумеснага прыдпрыемства ва Украіне. У верасні мінулага года ў Гомелі быў падпісаны адпаведны пратакол аб намерах. Планавалася, што выпуск камбайнаў пачнецца ўжо ў 2015 годзе. І вось такі пралёт...

СІТУАЦЫЯ

## "Прабачце, памыліліся..."

*Ленінскі раённы суд г.Мінска папрасіў прабачэння ў намесніка старшыні партыі КХП–БНФ Юрася Беленькага.*

Гісторыя пачалася з таго, што ў лістападзе мінулага года спадар Беленькі быў адказны за арганізацыю дазволеных мерапрыемстваў, прысвечаных "Дзядам", і мітынгу памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у мінскім урочышчы Лошыца. Заўваг з боку міліцыі і прадстаўнікоў Мінгарвыканкама не было, але праз нейкі час яго прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Маўляў, не забяспечыў бяспеку, не аплаціў своечасова паслугі міліцыі.

*"Хоць не было і ніякага рашэння гарадскіх улад, што патрэбна было гэта рабіць,* – распавядае **Юрась Беленькі**. – *Тым не менш суддзя Марына Запаснік вынесла пастанову, згодна з якой было вырашана аштрафаваць мяне на 4,5 мільёна рублёў. Я, натуральна, не пагадзіўся з гэтым, бо прамыя ж нормы закона не парушаў. Але нашу сям'ю адразу ж залічылі ў праблемныя, і суд праінфармаваў органы апекі і папячыцельства Ленінскага раёна пра неабходнасць кантролю за становішчам дзяцей у маёй сям'і".*

Дарэчы, згодна з дэкрэтам, суды і на самай справе павінны інфармаваць органы апекі і папячыцельства, калі грамадзянін, у якога ёсць малыя дзеці, асуджаны нават за адміністрацыйнае парушэнне. Але з адной умовай. У дэкрэце ёсць пералік шасці артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса, якія падпадаюць пад гэтае правіла. Справа Беленькага ў гэты спіс не ўваходзіла. І яна атрымала працяг...

*"Днямі я атрымаў з Ленінскага раённага суда ліст з прабачэннямі, падпісаны выканаўцай абавязкаў старшыні суда Ірэнай Бролішс,* – распавядае палітык. – *У лісце сказана, што копія пастановы суда Ленінскага раёна "памылкова накіравана ў орган апекі і папячыцельства". Зрэшты, я не веру ў такія выпадковыя "памылкі". Пасля таго, як пра гэту дзікую сітуацыю паведамілі СМІ (у тым ліку і "Народная Воля"), яе, напэўна, вырашылі "адкруціць" назад. Зрэшты, усё добра, што добра заканчваецца..."*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НУ І НУ!

## Фантазія разгулялася

Бярозаўскія заяўнікі пікета на 25 сакавіка – да Дня Волі – атрымалі адмову з райвыканкама. Адказ падпісаны намеснікам старшыні райвыканкама Яўгенам Тарасюком. Распараджэнне аб адмове – старшынёй Бярозаўскага райвыканкама Юрыем Наркевічам.

У адказе паведамляецца, што ў сувязі з тым, што ў адной з мэт пікета ўтрымліваецца распальванне нацыянальнай варожасці або розні, у правядзенні пікета адмоўлена. У якой з дзвюх мэт – не сказана. У заяўцы былі ўказаны дзве мэты правядзення пікета. Першая – адзначэнне 97-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, другая – выказванне салідарнасці з палітвязнямі і патрабаванне іх вызвалення. Ну і дзе тут варожасць?..

Нагадаем, што мінскія ўлады шэсце на Дзень Волі дазволілі. Збор удзельнікаў прызначаны 25 сакавіка на 15.00 ля кінатэатра "Кастрычнік".

## Не заставайцеся без "Народнай Волі" напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў

Так, хто Вам прапануе найбольш аб'ектыўную інфармацыю, звязаную з лёсавызначальнай палітычнай кампаніяй?

**"Народная Воля".**

Хто адстойвае ў краіне сапраўдную дэмакратыю?

**"Народная Воля".**

Хто абараняе правы простага чалавека?

**"Народная Воля".**

Хто за нацыянальнае адраджэнне Беларусі?

**"Народная Воля".**

Дык, шаноўныя чытачы, застаёмся і надалей разам!

Да заканчэння падпіскі на II квартал – тры дні.

Не спазніцеся.

***Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".***

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 5799 дзён таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 5667 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 5667 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 5372 дні таму

Народная Воля http://www.nv-online.info
24 САКАВІКА 2015 г.



ЗАКУЛІССЕ

# У беларускіх лёгкаатлетаў з'явіўся ўласны "Оскар"

*Днямі ў Мінску прайшла ўрачыстая цырымонія ўручэння прэміі "Атлетыка". Яе лаўрэатамі сталі лепшыя спартсмены краіны паводле вынікаў мінулага года.*

Месцам правядзення мерапрыемства быў абраны сталічны рэстаран IDOL. Адной з першых сюды прыехала алімпійская чэмпіёнка ў кіданні дыска **Эліна Зверава.** Выйшаўшы з таксі, яна падышла да журналістаў з пытаннем: "А вы ведаеце, дзе ўсё будзе адбывацца? Падкажыце". Падказалі і накіраваліся следам за славутай спартсменкай.

На ўваходзе ў рэстаран дзяўчаты мадэльнай знешнасці частавалі прыйшоўшых цукеркамі.

Цырымонія прайшла на другім паверху будынка. У цэнтры на кафедры стаялі статуэткі "Атлетыка". Іх вырабілі таленавітыя маладыя скульптары **Валерый Дудко і Максім Паляшчук.**

А самі спартсмены размясціліся ў цэнтры залы за накрытымі сталамі. У меню – лёгкія закускі, мясная нарэзка, сокі і мінералка. Ні кроплі алкаголю, вядома ж. Алкаголь і спорт высокіх дасягненняў – рэчы несумяшчальныя.

Журналістаў размясцілі асобна ад спартсменаў – у сектары за жоўтай стужкай.

Першымі лаўрэатамі прэміі "Атлетыка" ў катэгорыі "Юнакі і дзяўчаты" сталі кідальнікі кап'я – **Валерый Ізотаў і Ганна Тарасюк.** Мама Ганны Тарасюк **Наталля Шыкаленка** названа лепшым трэнерам у гэтай катэгорыі.

У юніёраў лепшымі названы **Вікторыя Рашчупкіна** (спартыўная хадзьба) і **Дзмітрый Набокаў** (скачкі ў вышыню). Лепшым трэнерам у юніёраў названы асабісты трэнер Набокава – **Уладзімір Алейнік**.

Сярод моладзі лепшымі былі прызнаны **Алена Собалева** (кіданне молата) і **Андрэй Чурыла** (скачкі ў вышыню). Лепшым трэнерам у маладзёжнай катэгорыі названы **Валянцін Курдзюк.**

А ў самай прэстыжнай намінацыі ўзнагароды атрымалі бягуха, чэмпіёнка Еўропы ў бегу на 800 метраў **Марына Арзамасава** і сярэбраны прызёр Алімпіяды-2008 шматборац **Андрэй Краўчанка.** Лепшымі трэнерамі сталі асабістыя настаўнікі гэтых спартсменаў **Наталля Духнова** і **Ігар Сівадзедаў.**

"Вельмі добра, што ў беларускіх атлетаў з'явіўся свой "Оскар", – пасля атрымання ўзнагароды адзначыў Андрэй Краўчанка. – Прыемна быць лепшым сярод лепшых. Цяпер штогод мы будзем змагацца за гэтае званне. Алімпійскі год будзе для нас вельмі складаным, і атрымаць гэтую ўзнагароду будзе няпроста.

У сваю чаргу лепшая спартсменка краіны Марына Арзамасава, з якой літаральна напярэдадні давялося рабіць інтэрв'ю, адзначыла:

"*Калі мы з вамі сустракаліся, я і ведаць не ведала, што стану лаўрэатам "Атлетыкі". Гэта шчыра. Для мяне самой гэта была інтрыга. І, канечне, вельмі прыемна стаць першай уладальніцай гэтай узнагароды".*

Не застаўся без узнагароды і кіраўнік федэрацыі лёгкай атлетыкі Беларусі, які да таго ж з'яўляецца і дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, **Вадзім Дзевятоўскі**. Загад аб узнагароджанні Дзевятоўскага вышэйшай узнагародай Мінспорту за развіццё фізічнай культуры і спорту падпісаў міністр **Аляксандр Шамко**.

Такім чынам, узнагароды раздадзены, спартсмены працягваюць трэніроўкі.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ШАШКІ

## Канадскія шашкі

У іх гульня ідзе па правілах міжнародных шашак, але на 144-клетачнай дошцы, 12 гарызанталяў і столькі ж вертыкаляў якой налічваюць 72 белыя і такую ж колькасць чорных палёў. Кожнаму з сапернікаў належыць па 30 баявых адзінак, бо шашкамі запаўняюцца чорныя палі першых пяці гарызанталяў. Прынята лічбавая сістэма натацыі: лік чорным гульнявым палям (ад 1-га да 72-га) вядзецца злева направа, пачынаючы з верхняй гарызанталі.




Нядаўна Французская федэрацыя шашак арганізавала эксперыментальны конкурс складання камбінацыйных праблем-144. Суддзямі ў ім былі Nicolas Doubovy (Францыя), Рустам Шаяхметаў (Расія) і Пётр Шклудаў (Беларусь). Згодна з канчатковымі вынікамі лаўрэатамі сталі: 1. Arjan de JONG з Галандыі (43 ачкі), 2. Віктар Шульга з Беларусі (40) і 3. Віталь Кручкоў з Украіны (22).

Пазнаёмцеся з прызавым творам В.Шульгі:

**Белыя**: 25, 32, 34, 38, 47, 49, 51, 57, 58, 59, 60, 65, 66, 69 (14).
**Чорныя**:
9, 17, 21, 27, 29, 35, 36, 40, 43, 46, 48, 53, 54, 61 (14) . 255 ачкоў: 25-19, 69-62, 32-26, 26-02, 34-47, 02-11, 19-13, 11-67, 67-50, 50-70 +.

## Матч дружбы

Гэтае міралюбівае спаборніцтва ладзілася паміж беларускімі і ўкраінскімі стваральнікамі камбінацыйных праблем па рускіх шашках. Камандную перамогу ў ім атрымалі ўкраінцы Д.Малай, А.Саўчанка (катэгорыя А), С.Губачкін і С.Усцьянаў (кат. В). Сярод беларусаў вызначыліся П.Шклудаў і Д.Камчыцкі (кат. А), І.Наўроцкі і В.Шульга (кат. В). Лепшы вынік у асабістым заліку паказаў С.Губачкін (169 ачкоў).

Вам будзе прыемна разабраць канструкцыі лідараў зборных:

1 (С.Губачкін). **Белыя**: a7, b2, b6, c1, c7, d6, e7, f6, g7, h4, h6 (11). **Чорныя**: b4, b8, c5, d2, d4, d8, e3, e5, f2, f4, f8, h8 (12). 90 ачкоў па змесце: c3, fd4 (hf6) g5, c5, b8, a5 (b6, b6) f6, f6 (c5) e7, g7 (d4) f8 (e5A) g7 (f4) c3 (g3) d4 (h2) g1x. Варыянт жа A(c5) застаецца за Вамі. Сваё рашэнне вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

2 (П.Шклудаў). **Белыя**: b4, b6, c7, d6, e1, e7, f4, g3, g5 (9). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, d8, e3, e5, f2, f6, g7, h4 (11). 77, 5 ачка: h6, df4, g5, f8, b8, h8, ea1 (f2) e7, g1 (b4) b2 (g3) e3 (h2) g1 (a3) c3x.

У арбітражную калегію ўваходзілі В.Шульга (Беларусь), І.Івацка (Украіна), якія не ацэньвалі творы сваёй каманды, і незалежны суддзя Р.Шаяхметаў (Расія).

### Праверце рашэнні

**"Турніры ў першай лізе"** (Сяргей Гладкі – Вітольд Цыдзік). Згуляўшы 1... fg5, чорныя трапілі ў замаскіраваную пастку, якую падрыхтавалі белыя: 2. fg3 3. ef2 4. bc3 5. f:a1 bc7 6. a:h8x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ЗОРКІ Ў ГАСЦЯХ "НАРОДНАЙ ВОЛІ»

# *Марына АРЗАМАСАВА:* «Спартсмены ў Беларусі далёка не алігархі...»

*Імя беларускай лёгкаатлеткі Марыны Арзамасавай стала вядома шырокаму колу спартыўных заўзятараў пасля яе трыумфальнага выступлення на мінулагоднім чэмпіянаце Еўропы ў Швейцарыі. Там Марына заваявала залаты медаль у бегу на 800-метровай дыстанцыі. Дагэтуль у калекцыі спартсменкі ўжо былі бронзавыя медалі кантынентальных і сусветных спаборніцтваў.*

*Пра тое, чаму яна не стала другой Вікторыяй Азаранка, чаму не прасіла ў Аляксандра Лукашэнкі аб паляпшэнні жыллёвых умоў, а таксама пра беларускую дэвальвацыю, дзявочыя слабасці і многае-многае іншае Марына Арзамасава распавяла ў гутарцы з карэспандэнтам «Народнай Волі».*




**Даведка «Народнай Волі"**

**Марына Арзамасава (Катовіч)** – лёгкаатлетка. Нарадзілася 17 снежня 1987 года ў Мінску.

Бронзавы прызёр (2012) і чэмпіёнка Еўропы (2014) у бегу на 800 метраў. Бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы ў памяшканнях у бегу на 800 метраў (2013). Бронзавы прызёр чэмпіянату свету ў памяшканнях у бегу на 800 метраў (2014).

Трэнер – Наталля Духнова.



...Сустрэцца з чэмпіёнкай Еўропы мы павінны былі ў Цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па лёгкай атлетыцы, што ў Мінску на вуліцы Каліноўскага. Менавіта тут трэніруецца Марына Арзамасава.

Звычайна на прызначаныя інтэрв'ю я не спазняюся, а тут высветлілася, што дзяўчына чакала мяне добрыя паўтары гадзіны...

Стала няёмка, але спартсменка супакоіла:

– Сённяшняя трэніроўка прайшла ў скарочаным варыянце. Трохі пабегала па лесе тут побач – трэнер і адпусціла... Верыце, у мяне нават думкі не было з'ехаць. Мы ж з вамі дамовіліся, а я так выхавана, што шаную чужы час і чужыя намаганні...

**– Марына, калі ўжо вы загаварылі пра час, першае пытанне просіцца само сабой: няўжо вы і на спатканні з будучым мужам ніколі не спазняліся? Многія дзяўчаты на гэта «хварэюць»...**

– Не, на спатканні да Іллі я таксама прыходзіла своечасова. Рэдка магла сабе дазволіць спазніцца хвілін на дзесяць, не болей. Але гэта такія стратэгічныя дзявочыя хітрыкі...

**– Наколькі я ведаю, ваш муж таксама займаўся лёгкай атлетыкай...**

– Так, на гэтай глебе і пазнаёміліся. Разам трэніраваліся. Сімпатыя паміж намі ўзнікла адразу. Але ж першы крок у стасунках, я лічу, павінен рабіць мужчына. Ілля яго зрабіў. Мы сустракаліся чатыры гады, а потым вырашылі ажаніцца.

**– Памятаеце, як прагучала прапанова рукі і сэрца?**

– Канечне памятаю! Гэта было будзённа, без скрыпача на даху ці яшчэ якой рамантыкі. Ілля проста зрабіў прапанову стаць ягонай жонкай. Я нават часу, каб падумаць, у яго не прасіла. Адразу пагадзілася. Ведаеце, у кожнага бывае адчуванне, што сустрэў, як кажуць, свайго чалавека. Вось Ілля – гэта мой чалавек на ўсе сто працэнтаў. Муж тры гады як перастаў актыўна займацца лёгкай атлетыкай. Зараз ён працуе ў сістэме харчавання на «Мінск-Арэне». Па святах, падчас буйных канцэртаў і ў дні хакейных матчаў яго дома не бывае – Ілля працуе. З-за работы ён нават на двух апошніх днях народзінаў нашай дачушкі Аляксандры адсутнічаў. Але мы, канечне, ставімся да гэтага з паразуменнем.

**– Зараз вашай дачушцы пяць гадоў. Яе таксама чакае спартыўная будучыня?**

– Не ведаю. Але на трэніроўкі са мной Саша, бывае, прыязджае разам. Бегаем... Што будзе далей, пакажа час, пакуль дачцэ, напэўна, як і ўсім дзецям, падабаецца бегаць...

**– Затое вам спартыўны лёс быў наканаваны адразу пасля нараджэння. Вы нарадзіліся ў сям'і спартсменаў, напэўна, іншага шляху ў вас і не было. Я маю рацыю?**

– У многіх спартыўных сем'ях дзеці робяць першыя крокі ў спорце, але далей спроб справа не ідзе. Я нарадзілася ў спартыўнай сям'і. Бацька – Аляксандр Катовіч – займаўся скачкамі ў вышыню, мама – Равіля Аглетдынава – была чэмпіёнкай СССР ў бегу на сярэдніх дыстанцыі. Так склаўся лёс, што мама мяне выхоўвала адна. І спачатку я хадзіла ў секцыю вялікага тэніса.

**– Маглі стаць другой Вікторыяй Азаранка?**

– Хто яго ведае (*усміхаецца. – **Аўт.***). Заняткі ў тэніснай секцыі мне вельмі падабаліся. Але не раскрыю вялікага сакрэту, калі скажу, што гэта вельмі затратны ў фінансавым плане від спорту. Прычым з самага дзяцінства. Гадоў пяць я займалася, а потым вымушана была сысці.

Аднойчы мама адправіла мяне ў спартыўны лагер. І пайшло-паехала. Лёгкай атлетыкай займаюся з адзінаццаці гадоў.

**– Адразу абралі для сябе каронную дыстанцыю ў 800 метраў?**

– Не, тут жа ад юных спартсменаў мала што залежыць. Усё вырашае трэнер. І, як правіла, кожнаму падбіраюць тую дысцыпліну, дзе шанцаў на поспех паболей. Калі я пачынала займацца, то і бегала, і скакала... На спаборніцтвах спрабавала сябе на дыстанцыях на 60 і 300 метраў. А гадоў з 13–14 трэнеры заўважылі, што мая дыстанцыя – 800 метраў. Яна лічыцца адной з самых складаных у лёгкай атлетыцы. Быццам бы і доўгая, але ў той жа час хуткая. Тут патрэбны дзве якасці: хуткасць і трываласць... Быццам бы і тое і другое ў мяне ёсць.

**– Мяркуючы па вашых выніках, гэта так. Не кожны можа стаць чэмпіёнам Еўропы. Дарэчы, як змянілася ваша жыццё пасля залатога поспеху ў Швейцарыі?**

– У чалавечым плане ніяк абсалютна. Кола людзей, з якімі падтрымліваю стасункі, не зменшылася. «Зорную хваробу» я не падхапіла – гэта дакладна. Разумееце, я такі чалавек... мэтанакіраваны, калі хочаце. Заўжды хочацца дабіцца большага, чым ёсць зараз. Дабіцца поспеху. А для гэтага трэба шмат працаваць.

**– Поспеху, якога ў свой час дасягнула Юлія Несцярэнка, стаўшы алімпійскай чэмпіёнкай?**

– У кожнага спартсмена-прафесіянала ёсць свая запаветная мара. Я не выключэнне. Але мара – гэта нешта асабістае, не хацелася б яе агучваць...

**– Аднак Беларусь магла і не займець чэмпіёнку Еўропы ў вашай асобе. Ведаю, што ў вас была магчымасць атрымаць расійскае грамадзянства...**

– Магчымасць такая і сапраўды была, але я ніколі не разглядала яе сур'ёзна. Шэсць гадоў я пражыла ў расійскім Калінінградзе і нават у расійскіх спаборніцтвах выступала, але было гэта «паўлегальна», бо я ніколі не адмаўлялася ад беларускага пашпарта. Разумееце, сітуацыя ў Расіі наступная: краіна вялікая, адпаведна і канкурэнцыя за месца ў зборнай шалёная. Да таго ж Калінінград не самы спартыўны рэгіён Расіі. Для таго каб чагосьці дасягнуць, трэба рана ці позна ехаць у Маскву. Я не была да гэтага гатова. І замест Масквы выбрала Мінск. Тут мае карані.

**– Марына, даруйце, што спрабую, як кажуць, залезці ў вашу кішэню, але цікава: пасля поспеху на чэмпіянаце Еўропы фінансавае становішча вашай сям'і палепшылася?**

– Праўду кажуць: пакуль чалавек у абойме, пакуль паказвае вынік, то і грошы атрымлівае. Ад Міністэрства спорту і турызму я атрымліваю зарплату менавіта за тое, што добра выступаю. Канкрэтныя лічбы агучваць не буду... Да таго ж пасля поспеху на чэмпіянаце Еўропы я стала ўладальніцай імяннай стыпендыі. Раней многія яе называлі «прэзідэнцкай», зараз яна называецца «імянная». Першую такую стыпендыю я атрымала ў лютым. Выплачваць гэтыя грошы мне будуць да канца бягучага года. Гэта сур'ёзныя грошы. Калі б яшчэ курс долара не скакаў, увогуле было б добра...

**– Адчулі на сабе дэвальвацыю беларускага рубля?**

– Канечне, як і многія суайчыннікі. Хаця, ведаеце, мы ў сям'і стараемся над гэтым не задумвацца. Беларускія спартсмены – далёка не алігархі і не фінансавыя дзялкі, як камусьці можа падацца. Маем, што маем... І запыты ў мяне пасля чэмпіёнства не змяніліся. Купляю тое, што купляла раней. Жывём адпаведна магчымасцям.

**– Я ведаю спартсменак, для якіх лепшы адпачынак – шопінг. Вы з іх ліку?**

– Не, такога, каб хадзіць гадзінамі па крамах, у мяне няма. Перад тым як нешта набыць, я падумаю, ці патрэбна мне гэта рэч. Па шчырасці вам прызнаюся, не эканомлю толькі на дзіцячых рэчах – мая дачка для мяне сапраўдная прынцэса. І яшчэ я ніколі не эканомлю на адпачынку.

**– Што для вас адпачынак?**

– Пажадана, каб пляжны адпачынак спалучаўся з адпачынкам экскурсійным. У гэтым годзе мы ўсёй сям'ёй былі на Тэнерыфе, што ўваходзіць у архіпелаг Канарскіх астравоў. Уражанні незабыўныя. Акрамя пляжнага адпачынку мы былі ля вулкана. Гэта вельмі прыгожа! Такі своеасаблівы «марсіянскі пейзаж» на зямлі, там нават фільмы нейкія фантастычныя здымалі. Вулканічныя палі і камені зялёна-чырвонага колеру... І нават вецер хуткасцю 100 метраў у секунду не перашкода, каб гэтым пейзажам любавацца.

**– Вяртаючыся да тэмы дабрабыту... Я ведаю, што ў свой час у вас паўстала кватэрнае пытанне, якое доўга не вырашалася. Што ў рэшце рэшт паспрыяла станоўчаму вырашэнню пытання – вашы спартыўныя вынікі?**

– Я вам раскажу гэтую гісторыю ад пачатку. У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў я стаю адносна нядаўна – усяго пяць гадоў. Справа ў тым, што я маю званне лейтэнанта Узброеных сіл Беларусі. Так склалася, што шэсць гадоў таму я трапіла ў спартыўны камітэт арміі. Была ў званні радавога, зараз лейтэнант – у гэтым годзе чакаю чарговага павышэння па вайсковай лесвіцы. І чарга на паляпшэнне жыллёвых умоў – вайсковая. Ну і па шчырасці, гэта пытанне не кранаецца з месца. На мяне аформлена кватэра маёй мамы, дзе зараз жыве мая бабуля. Я там не жыву. Мы з мужам і дачкой жывём у яго бацькоў. Разам з намі яшчэ пражываюць брат мужа з жонкай і двума іхнімі дзеткамі... Але паводле папер у мяне ёсць жыллёвая плошча. І ўсе мае аповеды пра тое, дзе і як жыву, не мелі ўздзеяння. Я разлічвала на тое, што пасля чэмпіянату свету, дзе я была трэцяй, і "залатога" чэмпіянату Еўропы сітуацыя зрушыцца. Я і не думала атрымаць жыллё задарма. Гатова была заплаціць, узяць ільготны крэдыт ці яшчэ як... І намёкі такія быццам бы былі, мяне некалькі разоў абнадзейвалі: маўляў, вось-вось – і пытанне вырашыцца станоўча. Не вырашылася...

**– Марына, вы ж былі на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам. Не маглі за сябе папрасіць?..**

– Не магла. Лічу, сітуацыя была недарэчная для гэтага. Да таго ж я сціплы чалавек, каб за сябе прасіць. Але ў маёй кватэрнай гісторыі ў рэшце рэшт з'явіўся вынік: мы з мужам залезлі ў пазыкі і купілі сабе кватэру ў Калодзішчах. Праўда, пакуль гэта голыя бетонныя сцены ў новабудоўлі. Зараз вось дамовіліся з будаўнікамі, неўзабаве там распачнецца рамонт, а пасля адбудзецца наваселле.

**– Давайце пра прыемнае... У кожнай дзяўчыны ёсць свае слабасці. Вы ж не выключэнне з правілаў?**

– Вельмі люблю сукенкі. Іх шмат у мяне ў шафе вісіць... Люблю прыгожыя рэчы.

**– А смачна паесці любіце? Ці вам трэба прытрымлівацца нейкай дыеты?**

– Дыета – гэта не пра мяне. У юнацтве я ўвогуле была «пышкай». Раскрыю вам яшчэ адзін сакрэт: калі была цяжарная, вельмі моцна паправілася. Да трэніровак пасля родаў я прыступіла, калі важыла больш за 80 кілаграмаў. Але прайшло месяцаў шэсць, і вага прыйшла ў норму. Я не скажу, што ў нечым сябе абмяжоўваю, – спартсмену патрэбны бялкі і вугляводы. Гэта мяса і макарона. Вось гэта мая паўсядзённая ежа. А па вялікіх святах магу нават «кока-колы» выпіць трошачкі. Хаця што «кола», што чыпсы – гэта, мякка кажучы, не карысна... Па вялікім рахунку я не гурман. Усе гэтыя соусы, падлівы, сушы – не маё.

**– Харчовыя дабаўкі выкарыстоўваеце?**

– У нас гэта называецца "біялагічна актыўныя дабаўкі". Яны ёсць у рацыёне любога прафесійнага спартсмена. Больш за тое, спартсмены былі вымушаны купляць той жа пратэін за свае грошы. Сродкі на гэта ішлі немалыя.

Але, хачу сказаць, пасля таго, як Федэрацыю лёгкай атлетыкі ўзначаліў Вадзім Дзевятоўскі, сітуацыя ў гэтым пытанні палепшылася. Нам выдалі якасныя біялагічныя дабаўкі. Чаго чакаю ад Дзевятоўскага? Ведаеце, пакуль рана пра нешта канкрэтнае гаварыць – чалавеку патрэбны час. Але адзначу, што шмат робіцца для папулярызацыі нашага віду спорту. Важна, што Вадзім Дзевятоўскі ведае лёгкую атлетыку знутры. Ён імкнецца дапамагчы, гэта бачна.

**– Марына, ну і апошняе пытанне. Ці задумваліся вы над тым, чым будзеце займацца пасля таго, як скончыце выступаць у вялікім спорце?**

– Спадзяюся, што мне да гэтага яшчэ далёка. Але ў мяне ёсць і грамадзянская спецыяльнасць – я скончыла юрфак БДУ. Пакуль, праўда, не бачу сябе юрыстам, бо маё жыццё на сённяшні дзень – гэта спорт...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

## Правда о Киркорове



Несколько лет назад российский певец Филипп Киркоров и его отец Бедрос Киркоров взяли шефство над молодым армянским исполнителем Андраником Алексаняном, у которого обнаружили серьезную болезнь. Журналисты выяснили, что дело не только в милосердии, но и в том, что Киркоровы тоже армяне.

– Отец Филиппа – чистокровный армянин по фамилии Киркорян, а мама – еврейка, оперная певица из Болгарии. Когда в 1915 году случился геноцид в Турции, кого-то из армян на кораблях отвезли в Грецию, кого-то – в Болгарию. Семья Киркоряна – одна из таких – рассказал вице-президент Союза армян России Г.Ананянц. – Я как-то спросил Филиппа, почему он скрывает свое происхождение. На что Филипп ответил: «Не могу сейчас сказать, что я – армянин. Потому что долгие годы говорил, что болгарин!»

Отец и сын Киркоровы активно участвуют в жизни армянской диаспоры.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**ПРЫЁМНАЯ:**
**тэл./факс (017) 3286871.**
**Тэл. рэкламнага аддзела:**
**(017) 3286609**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15023

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Першы намеснік галоўнага рэдактара Святлана Міхайлаўна КАЛІНКІНА**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.03.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25440 экз. Заказ №913.**

УСМІХНІЦЕСЯ...

***

Адзін асёл кажа другому:
– Я хачу, каб мая жонка мне здрадзіла...
– Да ты што?! Навошта?
– Тады я буду падобны на высакароднага аленя...

***

– Падсудны, навошта вы кінулі каменем у прадаўца і разбілі яму галаву?
– Спадар суддзя, гэта быў не камень, а тое, што прадавец назваў свежай булачкай.

***

– Вы звольнены за сістэматычныя прагулы.
– Можна падумаць, што, калі б я прагульвал хаатычна, вы мяне пакінулі б на працы...

***

Камандзір паветранага карабля звяртаецца да пасажыраў:
– У нас перасталі дзейнічаць усе рухавікі, адбылася поўная разгерметызацыя самалёта. Якое шчасце, што мы яшчэ не ўзляцелі!

***

Калі ты стаіш і адначасова сядзіш, то ты ў турме, а калі сядзіш і адначасова стаіш, то ты ў машыне ў пробцы.